Праваабарончы
Веснік
кастрычнік 2013
Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь

# ПАЛІТЗНЯВОЛЕНЫ АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ ЎГАНАРАВАНЫ ПРЭМІЯЙ ВАЦЛАВА ГАВЭЛА

**Прэмія Вацлава Гавэла ў галіне правоў чалавека прысуджаная зняволенаму старшыні Праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесю Бяляцкаму. Імя пераможцы абвясціў старшыня Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы Жан-Клод Міньён 30 верасня ў Страсбургу. Ён павіншаваў з узнагародай жонку праваабаронцы Наталлю Пінчук, якая прысутнічала на цырымоніі.**

Сёлета сярод намінантаў былі, акрамя Алеся Бяляцкага, аўтарытэтныя праваабарончыя арганізацыі - Асацыяцыя маладых юрыстаў (Грузія) і Rights Defence Network (Кітай).

Жонка праваабаронцы Алеся Бяляцкага Наталля Пінчук адзначыла, што Вацлаў Гавэл з'яўляўся духоўным настаўнікам Алеся. Незадоўга да сваёй смерці Гавэл накіраваў Алесю ў турму ліст падтрымкі. Алесь пісаў, што для яго гэты ліст стаў праменем надзеі і салідарнасці.

Наталля Пінчук таксама прамовіла, што ад самага пачатку свайго шляху Алесь змагаўся за незалежную і дэмакратычную Беларусь.

Зараз яму няпроста, ён знаходзіцца ў больш жорсткіх умовах, чым іншыя палітвязні, а ў турмах Беларусі дагэтуль яшчэ 10 палітвязняў, якія зрабілі свой выбар на карысьць дэмакратыі і свабоды. Прэмія, якую атрымаў Алесь, — гэта знак салідарнасці ня толькі з



*Наталля Пінчук на цырымоніі прысуджэння прэміі*

ім, але і з усёй беларускай дэмакратычнай супольнасцю.

Як паведамляе сайт Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, спачатку журы прадставіла спіс з шасці кандыдатаў, сярод якіх былі названыя Людміла Аляксеева (Расія), Алесь Бяляцкі (Беларусь), Грузінская Асацыяцыя маладых юрыстаў (Грузія), Вянгерскі Хельсінскі камітэт (Венгрыя), Псіхічны цэнтр абароны інвалідаў (Венгрыя) і Сетка абароны правоў (Кітай). Беларускага праваабаронцу вылучылі больш за 30 польскіх няўрадавых грамадскіх арганізацыяў.

*Кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі асуджаны на 4,5 году турмы ў лістападзе 2011-га. Яго прызналі вінаватым у няспалаце падаткаў. Праваабаронца сваёй віны не прызнаў і заявіў, што ўсе грошы, атрыманыя на ягоныя рахункі, ішлі на праваабарончую дзейнасць.*

*Падставай для крымінальнага пераследу Бяляцкага стала інфармацыя пра банкаўскія рахункі, якую перадалі афіцыйнаму Менску Літва і Польшча.*

*Краіны Эўразвязу, ЗША і міжнародныя праваабарон-чыя арганізацыі лічаць Бяляцкага палітвязнем, а прысуд яму — палітычна матываваным. Яны патрабуюць ад уладаў Беларусі вызвалення праваабаронцы.*

# СУД СУПРАЦЬ «РЭЗЕРВАЦЫІ ДЛЯ ДЭМАКРАТАЎ»

22 кастрычніка ў судзе Ленінскага раёну г. Магілёва пад старшынством суддзі Валянціны Лапацінай адбыўся разгляд скаргі магілёўскіх праваабаронцаў Барыса Бухеля і Аляксея Колчына на рашэнне Магілёўскага гарвыканкаму "Аб масавых мерапрыемствах у горадзе Магілёве".

Гэтым рашэннем гарвыканкам яшчэ ў 2007 годзе вызначыў адзінае ўва ўсім горадзе месца для правядзення тых масавых мерапрыемстваў, што арганізуюцца палітычнымі партыямі, грамадскімі арганізацыямі, прафсаюзамі і грамадзянамі. Гэта – стадыён па адрасе: вуліца Чалюскінцаў, 64В; ён знаходзіцца далёка ад цэнтральных вуліц гораду ў малалюдным месцы і, відавочна, не з'яўляецца зручным для правядзення масавых акцыяў.

4 жніўня 2013 г. Б.Бухель і А.Колчын збіраліся правесці пікетаванне, падчас якога яны мелі намер інфармаваць грамадзян аб праблеме палітвязняў у Беларусі. Імі загадзя была пададзеная заяўка на пікетаванне, якая не была задаволеная гарвыканкамам на падставе таго, што заяўнікі выбралі месцам пікетавання не прызначаны для гэтага ўладамі стадыён, а пляцоўку ў цэнтры Магілёва.

Праваабаронцы ў сваёй скарзе прасілі адмяніць рашэнне гарвыканкаму на падставе таго, што яно супярэчыць Закону аб масавых мерапрыемствах, Канстытуцыі, і Міжнароднаму пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах (МПГПП), што ратыфікаваны Беларуссю і з'яўляецца абавязковым для выканання. Б.Бухель і А.Колчын таксама звярталі ўвагу суду на тое, што прычына, па якой ім было адмоўлена ў пікетаванні, супярэчыць патрабаванням МПГПП, што пацвярджаецца шматлікімі рашэннямі Камітэту ААН па правах чалавека па аналагічных справах (тры з якіх былі далучаныя да матэрыялаў справы). Пры абвяшчэнні пісьмовых матэрыялаў справы, па патрабаванні праваабаронцаў, суддзя тройчы зачытала адпаведныя пункты з прыкладзеных рашэнняў КПЧ ААН, якія наўпрост аспрэчвалі довады прадстаўнікоў уладаў і прызнавалі такія дзеянні беларускіх уладаў і судоў парушэннем правоў чалавека на мірныя сходы і распаўсюджванне сваіх думак, і патрабавалі ад Беларусі прывесці Закон аб масавых мерапрыемствах і рашэнні мясцовых уладаў у адпаведнасць з міжнародным правам і спыніць падобныя парушэнні правоў чалавека.

Акрамя таго, праваабаронцы ў сваёй скарзе усумніліся ў тым, што стадыён, прызначаны ўладамі для правядзення масавых мерапрыемстваў, з'яўляецца прыдатным месцам для іх правядзення. І, нарэшце, заяўнікі апелявалі да таго, што ў Магілёве ўжо ёсць прэцэдэнты дазволаў правядзення пікетаванняў практычна па ўсім горадзе, і гэта не выклікала ніякіх праблем. Напрыклад, падчас выбараў у Палату прадстаўнікоў у 2012 годзе гарвыканкам прыняў рашэнне, якое дазволіла праводзіць пікетаванне (з мэтай збору подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты) паўсюль, за выключэннем некаторых месцаў.

Суд, аднак, не прыняў довады заяўнікоў да ўвагі і адмовіў ім у задавальненні скаргі. У сваім рашэнні суддзя Лапаціна палічыла, што прынятае Магілёўскім гарвыканкамам рашэнне аб выдзяленні для масавых акцыяў стадыёну па вул. Чалюскінцаў толькі не перашкаджае заяўнікам праводзіць іх і выказваць свае думкі і перакананні, але нават наадварот, у поўнай меры гэта забяспечвае.



*Апазіцыі дазволена мітынгаваць толькі тут*

На суд прыйшлі больш дзясятка магілёўскіх партыйных і грамадзкіх дзеячоў, якія, аднак, не змаглі прысутнічаць на ім да канца – суддзя выдаліла публіку падчас працэсу, палічыўшы, што тая ёй замінае.

Праваабаронцы адзначаюць, што не мелі ілюзіяў наконт выніку суду, і збіраюцца абскардзіць яго спачатку ў беларускіх інстанцыях, а затым і ў Камітэце ААН па правах чалавека. Яны ўпэўнены, што прынамсі ў КПЧ дамогуцца справядлівасці і яшчэ раз пацвердзяць, што падобныя абмежаванні на правядзенне масавых акцыяў не адпавядаюць закону.

# У БЕЛАРУСІ ЗА КРАТАМІ ЗАСТАЮЦЦА 9 ПАЛІТЗНЯВОЛЕНЫХ

***Праваабарончы цэнтр "Вясна" прызнае наяўнасць у Беларусі палітычных вязняў - асобаў, якія незаконна пазбаўлены свабоды за свае палітычныя перакананні, і патрабуе іх неадкладнага вызвалення.***

**1. МІКАЛАЙ АЎТУХОВІЧ.**

**Ветэран-афганец, прадпрымальнік з Ваўкавыску. Знаходзіцца ў турме за свае палітычныя перакананні.**

Узяты пад варту 8 лютага 2009 г., асуджаны 6 траўня 2010 г. Вярхоўным судом Рэспублікі Беларусь па ч. 3 арт. 295 Крымінальнага кодэксу (незаконныя дзеянні ў адносінах да вогнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў) да 5 гадоў і 2 месяцаў пазбаўлення волі ва ўмовах строгага рэжыму. Рашэннем суду ад 17 студзеня 2012 г. умовы адбыцця пакарання былі зменены на больш жорсткія, пераведзены з калоніі №5 у Івацэвічах ў турму №1 г.Гродна.

**2. МІКАЛАЙ СТАТКЕВІЧ.**

**Палітык, кандыдат у прэзідэнты 2010 г. Знаходзіцца ў турме за тое, што быў супернікам А.Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах.**

Узяты пад варту 20 снежня 2010 г., асуджаны 26 траўня 2011 г. судом Партызанскага раёна г.Менску па ч. 1 арт. 293 КК (арганізацыя масавых беспарадкаў, якія суправаджаліся гвалтам над асобай, пагромамі, падпаламі, знішчэннем маёмасці і узброеным супраціўам прадстаўнікам улады) да 6 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Рашэннем суду ад 12 студзеня 2012 г. умовы адбыцця пакарання былі зменены на больш жорсткія, пераведзены з калоніі №17 у Шклове ў турму №4 г. Магілёва.

**3. ЭДУАРД ЛОБАЎ.**

**Сябра «Маладога Фронту». Знаходзіцца ў турме за тое, што з'яўляецца палітычным актывістам.**

Узяты пад варту з 18 снежня 2010 г., асуджаны 24 сакавіка 2011 г. судом Маскоўскага раёна г.Менску па ч. 3 арт.339 КК (асабліва злоснае хуліганства) да 4 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах строгага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №22 у Івацэвічах.

**4. АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ.**

**Праваабаронца, пісьменнік. Знаходзіцца ў турме за тое, што займаўся праваабарончай дзейнасцю.**

Узяты пад варту з 4 жніўня 2011 г., асуджаны 24 лістапада 2011 г. судом Першамайскага раёна г.Менску па ч.2 арт. 243 КК (утойванне прыбыткаў у асабліва буйным памеры) да 4,5 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Адбывае пакаранне ў калоніі №2 г.Бабруйску.

**5. МІКАЛАЙ ДЗЯДОК.**

**Палітычны актывіст. Знаходзіцца ў турме за свае палітычныя перакананні.**

Узяты пад варту з 3 верасня 2010 г., асуджаны 27.05.2011 г. судом Заводскага раёна г.Менску па ч.2 арт.339 КК (злоснае хуліганства) да 4,5 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №17 у Шклове.

**6. ІГАР АЛІНЕВІЧ *.**

**Палітычны актывіст. Знаходзіцца ў турме за свае палітычныя перакананні.**

Узяты пад варту з 29.11.2010 г., асуджаны 27.05.2011 г. судом Заводскага раёна г.Менску па ч.2 арт.339 КК (злоснае хуліганства), ч.2 і ч.3 арт.218 КК (пашкоджанне маёмасці агульнанебяспечным спосабам і ў асабліва буйным памеры) да 8 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №10 у Наваполацку.

**7. ЯЎГЕН ВАСЬКОВІЧ *.**

**Палітычны актывіст. Знаходзіцца ў турме за свае палітычныя перакананні.**

Узяты пад варту з 17 студзеня 2011 г., асуджаны 18 траўня 2011 г. судом Бабруйскага раёна і г.Бабруйску ч.2 арт.339 КК (злоснае хуліганства) і ч.3 арт.218 КК (пашкоджанне маёмасці ў асабліва буйным памеры) да 7 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Рашэннем суду ад 12 кастрычіка 2011 г. умовы адбыцця пакарання былі зменены на больш жорсткія, пераведзены з калоніі №15 у Магілёве ў турму №4 г. Магілёва.

**8. АРЦЁМ ПРАКАПЕНКА.**

**Палітычны актывіст. Знаходзіцца ў турме за свае палітычныя перакананні.**

Узяты пад варту з 17 студзеня 2011 г., асуджаны 18 траўня 2011 г. судом Бабруйскага раёна і г.Бабруйску ч.2 арт.339 КК (злоснае хуліганства) і ч.3 арт.218 КК (пашкоджанне маёмасці ў асабліва буйным памеры) да 7 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў турме №15 у Магілёве.

**9. АНДРЭЙ ГАЙДУКОЎ.**

**Грамадскі актывіст. Знаходзіцца ў турме за свае палітычныя перакананні.**

Узяты пад варту ў пачатку лістапада 2012 года, асуджаны 1 ліпеня 2013 года па частцы 1 артыкула 14 і артыкуле 356-1 КК Рэспублікі Беларусь (замах на ўстанаўленне супрацоўніцтва са спецыяльнай службай, органам бяспекі або разведвальным органам замежнай дзяржавы) да 1,5 гадоў пазбаўлення волі. Адбывае пакаранне ў папраўчай калоніі №19 у Магілёве.

** У дзеяннях дадзеных асобаў угледаюцца прыкметы правапарушэння, але адзначаем несправядлівую кваліфікацыю іх дзеянняў і празмернасць вынесенага пакарання. Лічым, што яны адбылі ўжо дастатковае пазбаўленне волі для здзейсненага ўчынку і ўтрыманне надалей іх у зняволенні палітычна матываванае.*

# ПОДДЕРЖИТЕ ПОЛИТЗАКЛЮЧЕННЫХ!

Людям, которые лишены свободы за свои убеждения, особенно важна поддержка общества. Найдите несколько минут и напишите письмо политическим заключенным! Возможно, именно ваши слова помогут им выдержать испытание неволей.

**Алесь Беляцкий:**
213807, Могилевская обл., г. Бобруйск, ул. Сикорского, 1, ИК №2, отряд 14

**Николай Статкевич, Евгений Васькович, Николай Дедок:**
212011, г. Могилев, ул. Крупской, 99а, тюрьма №4

**Артем Прокопенко:**
213105 г. Могилев, Славгородское шоссе, 183, ИК №15

**Андрей Гайдуков:**
213030, г. Могилев, Славгородское шоссе, 3-й км, ИК №19

**Николай Автухович:**
230023, г. Гродно, ул. Кирова, 1, тюрьма №1

**Эдуард Лобов:**
225295, Брестская обл., г. Ивацевичи, «Волчьи норы», а/я 20, ИК №22

**Игорь Олиневич:**
211440, Витебская обл., г. Новополоцк, ул. Техническая, 8, ИК №10

### Кто такие политзаключённые?

*СПРАВКА*

**Авторитетная международная организация «Международная амнистия» политзаключённым называет человека, в лишении свободы которого присутствует существенный политический момент.**

**Политизаключенных зачастую осуждают по итогам процессов, сопровождавшихся нарушениями международных норм справедливого судопроизводства. Иногда их годами держат в предварительном заключении без суда и следствия. Amnesty International требует, чтобы все политические заключенные предстали перед справедливым судом в разумные сроки.**

**В отличие от узников совести, среди политзаключённых могут быть и те, кто прибегал к насильственным действиям (в том числе совершая уголовно-наказуемые деяния), либо призывал к насилию или вражде. Однако все обвинения в их адрес либо их часть могут быть и ложными. Amnesty International добивается лишь того, чтобы дела таких людей были рассмотрены в суде в разумные сроки и с соблюдением всех гарантий справедливого суда, как-то: право на адвоката по своему выбору, отказ от рассмотрения показаний, полученных под пытками и так далее.**

**Термин «политзаключенный» не означает, что человек обладает каким-то особым статусом, или что организация придаёт ему какое-то особое значение. Amnesty International не поддерживает и не опровергает взгляды таких людей, а также никак не оценивает необходимость тех или иных боевых действий в ходе политического противостояния или конфликта.**

Праваабарончы веснік. Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь. Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 ас.